Газета заснавана ў 1931 годзе. Адноўлена ў 1999 годзе.

# Голас Пружаны

№ 10 (10)
Пятніца,
10 - 15
лістапада
2000 года

Штотыднёвая незалежная грамадска-палітычная газета

Кошт свабодны

2 старонка — ТЫ НАВСЕГДА В ОТВЕТЕ ЗА ВСЕХ, КОГО ПРИРУЧИЛ...

3 старонка — ТОПЛИВНЫЙ КРИЗИС ПРИШЕЛ В БЕЛАРУСЬ

4 старонка — ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАЯ ГУЛЬНЯ

## Фонари, фонари, пусть не гаснут до зари...

**Елена Гавра**

Все чаще от друзей, знакомых и просто случайных прохожих можно услышать один и тот же вопрос: "Когда же появится свет на улицах города?". Думаю, что каждому из нас приходилось идти по неосвещённым улицам города, испытывая не только страх темноты, но и боязнь оказаться на больничной койке. Жертвой "темных улиц" города стал житель города Пружаны Тарасюк И. К., который 19 сентября около восьми часов вечера ехал на велосипеде за своей дочерью, которая находилась у родственников. Проезжая по ул. Красноармейской возле Пружанского совхоза-техникума, он наехал на бордюр и упал с велосипеда. В результате падения Иван Константинович получил открытую черепно-мозговую травму и пролежал около месяца на больничной койке в Пружанской ЦРБ.

Мы обратились к заместителю председателя райисполкома Юку Анатолию Владимировичу с просьбой разъяснить, в связи с чем отсутствует свет на многих улицах города Пружаны.

Анатолий Владимирович объяснил сложившуюся ситуацию отсутствием денег в бюджете. Задолженность государственного предприятия "Благоустройство", которая непосредственно несёт ответственность за освещение улиц города, Пружанским электросетям составляет 3,5 млн. рублей. На сегодняшний день подача света на улицы города начинается с 18:01 до 24:00. Так что дальнейшего улучшения ситуации с освещением улиц города пока не предвидится. Неизвестно, когда ГП "Благоустройство" выплатит свой долг. А вопрос "Когда появится свет на улицах города?" так и остаётся открытым.....



Rys. Marek Wdziekoński

## НАШЫ ЗАРОБКІ ЗА 9 МЕСЯЦАЎ 2000 ГОДА

| Прадпрыемства, арганізацыя | Сярэдні заробак, рублёў: за месяц | Сярэдні заробак, рублёў: за 9 месяцаў | У працэнтах да 1999 г: за месяц | У працэнтах да 1999 г: за 9 месяцаў |
|---|---|---|---|---|
| 1. ААТ "Пружанскі льнозавод" | 81589 | 62539 | 339,4 | 297,6 |
| 2. ААТ "Ліноўскі крахмальны завод" | 64436 | 48181 | 222,4 | 325,0 |
| 3. ААТ "Пружаскі кансервавы завод" | 48845 | 51232 | 146,6 | 258,5 |
| 4. Райаграпрамтэхніка | 58915 | 46958 | 252,9 | 313,4 |
| 5. Лясгас | 59769 | 46159 | 291,4 | 273,9 |
| 6. Плодакансервавы камбінат | 28772 | 25732 | 131,7 | 183,1 |
| 7. Прамысловасць райпатрэбсаюза | 50787 | 41882 | 256,5 | 281,5 |
| 8. Друкарня | 93952 | 71162 | 262,8 | 356,4 |
| 9. Камбінат будматэрыялаў | 58680 | 35528 | 328,8 | 306,4 |
| 10. Камбінат бытовога абслугоўвання | 20269 | 16929 | 238,5 | 240,2 |
| 11. Райсельэнега | 80308 | 41720 | 287,9 | 252,8 |
| 12. ААТ "Пружанскі малочны камбінат" | 86682 | 66044 | 251 | 265,4 |
| 13. Ружанская мэблевая фабрыка | 60757 | 45814 | 280 | 275,6 |
| 14 Ружанскі вытворча-харчовы завод | 43706 | 25993 | 225,7 | 214,3 |
| 15. ПЗР | 43085 | 29556 | 327 | 286,3 |
| 16. Цэнтр гігіены | 37985 | 37047 | 242,2 | 311,5 |
| 17. Фізкультура і спорт | 87333 | 41556 | 473,9 | 314,3 |
| 18. Аддзел сацабароны (раён) | 23547 | 20339 | 286,6 | 357,9 |
| 19. Аддзел адукацыі (раён) | 35760 | 33147 | 270,9 | 302,7 |
| 20. Аддзел культуры (раён) | 34369 | 30169 | 270,1 | 304,9 |
| 21. Вопытная станцыя | 50713 | 41721 | 293,1 | 347,4 |
| 22. Банкаўская дзейнасць | 91637 | 76751 | 235 | 272,6 |
| 24. РВЭС | 97282 | 68539 | 317 | 372,1 |
| 25. РВПС | 56226 | 45747 | 284,8 | 349 |
| 26. Будаўніцтва | 49803 | 36164 | 276,2 | 269,1 |
| 27. Гандаль | 47570 | 37702 | 239,8 | 292,9 |
| 28. Калгасы | 39091 | 28679 | 320,7 | 314,5 |
| 29. Саўгасы | 42942 | 29703 | 382,5 | 354,9 |
| 30. Транспарт | 54135 | 45270 | 303 | 318,9 |
| 31 Адзелы райвыканкама | | | | |
| Адукацыі | 52177 | 50941 | 263,2 | 309,3 |
| Культуры | 68000 | 67333 | 295,7 | 360,7 |
| Фінансавы | 70600 | 63667 | 371,6 | 344,2 |
| Упраўлення с/г | 51379 | 53015 | 315,7 | 343,9 |
| Сацыяльнай абароны | 51379 | 53015 | 315,7 | 343,9 |
| 32. Падатковая інспекцыя | 71262 | 74875 | 274,6 | 339,7 |
| 33. Райвыканкам | 61019 | 53759 | 304,8 | 320,3 |
| 34. Цэнтр занятасці | 53250 | 51958 | 390,8 | 352,3 |
| 35. Пракуратура | 52000 | 51347 | 303,6 | 336,7 |
| 36. Суд | 59739 | 49150 | 326,1 | 339,8 |
| 37. Райкам прафсаюзаў | 79714 | 60254 | 260,8 | 296,3 |
| 38. РАУС | 55227 | 49056 | 333,5 | 328 |



### ПАВОДЛЕ АФІЦЫЙНЫХ КРЫНІЦ

## ЯК ЖЫВЕМ, ШТО МАЕМ

Як адзначалася на апошнім (кастрычніцкім) паседжанні Пружанскага райвыканкама прысвечаным развіццю гаспадаркі раёна ў шэрагу галін меліся станоўчыя вынікі.

Павялічыўся на 9% тавараабарот прадпрыемстваў, пасляхова развіваліся знешні гандаль, электрасувязь, будаўніцтва жылля.

Разам з тым асноўныя галіны народнай гаспадаркі пагоршылі паказчыкі ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага году.

З 16 прадпрыемстваў - 7 допусцілі спад аб'ёмаў вытворчасці. На 47,8% узраслі пайнадзённыя страты рабочага часу, а ўнутрызменныя прастоі павялічыліся ў 92 разы. У выніку чаго недаатрымана прадукцыі на 196,5 млн.рублёў.

У селькай гаспадарцы аб'ем вытворчасці скараціўся на 13%, а ў жывелагадоўлі - на 23% да ўзроўню мінулага году. На 35% меньш прададзена мяса жывёлы і птушкі.

План пастаўкі дзяржаве зерня выкананы толькі на 63%. Меньш мінулагодняга перавезена грузаў і аказана платных паслуг насельніцтву.

Рэнтабельнасць прадпрыемстваў панізілася амаль у тры разы. Стратнымі былі 15 суб'ктаў гаспадарання.

Пратэрмінаваная крэдыторская запазычаннасць перавысіла дэбіторскую ў 3,2 раза. Цяжкім застаецца становішча з аплатай за энерганосьбіты і выплатай заробку. Па стану на 20.10.2000 г. запазычанасць па заробках за верасень склала 264,7 млн.рублёў (пры гэтым, толькі 2-га кастрычніка была ліквідавана запазычанасць за жнівень).

Сярэднемесячны заробак на пружаншчыне у жніўні быў ніжэйшым за мінімальны спажывецкі бюджэт.

Сярэдемесячная заработная плата ў жніўні склала 92,2% да мінімальнага спажывецкага бюджэту (па вобласці 110,2).

Фота IREX/ProMedia



## НАВІНЫ

**_Пераблыталі калгаснае і ўласнае._**

Старшыні калгасаў імя Леніна (Гарустовіч Г.В.), імя Калініна (Білецкі П.Н.), "Зара" (Паўлоўскі Е.Е.), імя Свядлова (Мікіціч В.Н.), імя Чапаева (Рабчук В.М.), дырэктар саўгаса "Праца" Хаян В.Г. скарыстовалі на ўласныя патрэбы калгаснае і дзяржаўнае паліва, дарэчы купленае па фіксаваных, г.зн. амаль удвая ніжэйшых, чым на звычайных АЗС цэнах. Пружанскі райвыканкам абавязаў вышэйпералічаных асобаў зліквідаваць запазычанасць па паліву да 1 снежня.

Цікава, як называлася б тое ж самае, калі б гэта былі не старшыні, а простыя калгаснікі?

**_РАА падтрымлівае "Дызайн"_**

Яшчэ ў чэрвені Пружанскі РАА пералічыў прыватнаму прадпрыемству "Дызайн" грошы (15,1 тыс. рублёў) для вырабу дзвярных блокаў, але на 1 кастрычніка яны яшчэ не былі зроблены.

**_Бацькі сталі плаціць._**

У параўнанні з мінулым годам амаль у два разы знізілася запазычанасць па бацькоўскай плаце ва ўстановах адукацыі. Па стану на 1 кастрычніка яна склала 591 тыс. рублёў, ці адну чвэрць ад усёй выдаткоўваемай на гэтыя мэты сумы.

**_Сярод прадпрыемстваў большасць - парушальнікі._**

З 397 юрыдычных асоб, якія стаяць на ўліку ў ІДПК па Пружанскаму раёну былі зроблены праверкі ў 141. Парушэнні выяўлены ў 120 (ці ў 85%). У той жа час індывідуальныя прадпрымальнікі, па водле адпаведных праверак, парушалі заканадаўства ў два разы меньш.

**_НА ЛЕТА Ў ЗША_**

Грамадскае аб'яднанне "Хрысціянскае сяброўства дарослых і моладзі" правяло 31 кастрычніка ў Гродне прэзентацыю праграмы ўладкавання моладзі ў летнікі ў ЗША. Удзел у гэтай праграме могуць браць юнакі і дзяўчаты ва ўзросце ад 19 да 30 год, якія добра валодаюць ангельскай мовай. Дадатковую інфармацыю наконт магчымасьці ўдзелу ў праграме можна атрымаць па тэл. 8-01561-56-1-03

**_ЦЯРПЕННЕ НАСТАЎНІКАЎ СКОНЧВАЕЦЦА_**

Больш за 20 тысяч мінскіх педагогаў маюць намер страйкаваць, пакінуўшы навучальныя класы і аўдыторыі, у выпадку, калі да канца 2000 года ўлады не выканаюць шэраг сваіх дадзеных абяцанняў. На пашыраным паседжанні прэзідыума Мінскай гарадской арганізацыі Беларускага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі педагогі прынялі адпаведную заяву. У падтрымку настаўнікаў ужо выступілі прамысловыя прадпрыемствы Мінска, абкам прафсаюзу хімікаў. Магчыма, да шэрагу страйкоўцаў у хуткім часе далучацца і шахцёры.

# ДАСТОЙНЫ КАНАНІЗАЦЫІ

**Язэп Машкала**

У поўзень мінулай суботы на Дзяды на праваслаўных могілках у г.п.Шарашова адбылося асвячэнне памятнага крыжа ў імя Пружанскага Благачыннага, пратаіерэя Міхаіла Кірылавіча Баброўскага.(1784 (ці 85) – 1848 г.г.). На асвячэнне сабраліся каля сотні чалавек з пасёлка і бліжэйшых вёсак. Прыехалі госці з Мінску, Брэста, Пружан.

Сярод прысутных і выступоўцаў былі галоўны рэдактар часопіса "Бярозка" У.Ягоўдзік, паэты А.Бадак, А.Каско, М.Пракаповіч, М.Папека, кінадраматург У.Мароз, загадчык кафедры графікі Акадэміі мастацтваў (Мінск) У.Вішнескі, прадстаўнікі мясцовых ўладаў іграмадскасці.

Новы надмагільны крыж вырабіў настаўнік з Шарашова І. Ляшчынскі, а шыльду з надпісам У.Мароз.

У сваіх прамовах выступоўцы расказалі прысутным аб навуковай і душпастырскай дзейнасці святара і вучонага, які закончыў свой жыццёвы шлях на Пружанскай зямлі.

Усталяванне памятнага крыжа на магіле достойнага сына беларускага народа М.Баброўскага ў год 2000 годдзя хрысціянства сімвалічная падзея.

Усе прысутныя пагадзіліся з думкай аб тым, што імя Міхаіла Кірылавыча Баброўскага дастойна большага ўслаўлення і ўшанавання. Нават прагучала думка аб тым, што ўлічваючы заслугі святара перад беларускім народам, перад праваслаўнай царквой было б справядліва і годна распачаць працу па кананізацыі яго імя.



*Усталяванне крыжа на магіле М.Баброўскага*

# МЫ ДАПАМОЖАМ СТУДЭНТАМ

**Цельпук Юля**

Моладзевая арганізацыя "Грамадзянскі форум" у апошні час стала самым знакамітым і перспектыўным аб'яднаннем сярод пружанскай моладзі. Галоўнай прычынай гэтага аказаўся інтарэс членаў "форуму" да спраў студэнтаў сельскагаспадарчага тэхнікуму, якім неабходна прававаяабарона, падтрымка талентаў і ініцыятываў, паляпшэнне ўмоў жыцця ў інтэрнатах, міжгародняя сувязь, добрае атапленне ў пакоях зімой.

Менавіта гэтымі справамі і вырашылі заняцца актывісты "Грамадзянскага форуму". У сувязі з гэтым быў напісаны ліст да дырэктара ПСГТ з прозьбай дазволіць іншагароднім студэнтам ўваход ў інтэрнаты да 23 гадзін (маюцца на ўвазе вучні, якім шжо споўнілася 16 гадоў), каб забяспечыць моладзі добры адпачынак. На гэты ліст форумаўцы атрымалі адказ.

Наступны ліст быў адпраўлены Клімовічу Міхалаю Аляксандравічу - дырэктару РВЭС з прозьбай аказаць дапамогу і садзеянне ва ўстаноўцы міжгародняга тэлефона-аўтамата ў студэнцкім інтэрнаце №4.

"Грамадзянскі форум" спадзяваецца на сваю запатрабаванасць маладым насельніцтвам Пружан і абяцае падтрымку і дапамогу ў любых пачынаннях не толькі студэнтам, а ўсім зацікаўленым яе дзейнасцю маладым людзям.

## Кошт паліва на гарадскіх АЗС:



**АЗС "Пружаны"**

| | |
|---|---|
| Аі-95 | 646 |
| Аі-92 | 564 |
| Аі-76 | няма |
| ДП | няма |

**АЗС «Салют»**

| | |
|---|---|
| Аі-95 | няма |
| Аи-92 | 560 |
| Аи-76 | няма |
| ДП | 411 |

## Курсы валют ў банках г.Пружаны:



| | купля | продаж |
|---|---|---|
| **БелБізнесБанк** | | |
| $ ЗША | 1081 | 1091 |
| DM | 465 | 480 |
| RUR | 38 | 39 |
| **Аграпрамбанк** | | |
| $ ЗША | 1080 | 1090 |
| DM | 465 | 478 |
| RUR | 38 | 39 |
| **Беларусбанк** | | |
| $ ЗША | 1085 | 1091 |
| DM | 450 | 470 |
| RUR | 37 | 39 |

**Удакладненне**

У газеце «Голас Пружаны» №9 , у рубрыцы «Крымінальная хроніка» зроблена апячатка. Замест абрэвіятуры КСМ трэба чытаць ГСМ.

# Ты навсегда в ответе за всех, кого приручил...*

*Антуан де Сент-Экзюпери "Маленький принц"

**Елена Гавра**

Пружанский район считается одним из самых неблагоприятных в области по численности заболевания населения вирусом бешенства. Носителями этого заболевания являются не только дикие животные, но и наши с вами питомцы, а чаще – бездомные кошки и собаки. Жители города всё чаще жалуются в различные инстанции с просьбой оградить их от подобного соседства. Это и понятно. Ведь у каждого из нас есть дети, которые играют, ласкают этих животных. А ведь совершенно неизвестно, чем может обернуться подобное общение.



Для решения данной проблемы администрация города приняла ряд решительных мер по сокращению бездомных кошек и собак.

В ранние утренние часы, хотя это и не лучший выход, ведётся отстрел этих четвероногих бродяг. Но это лишь частичное решение проблемы, к тому же очень дорогостоящее и опасное. Не дай бог оказаться рядом случайному прохожему. В связи с этим администрация города предусматривает создание вольеров для бездомных животных. Население города могло бы приносить сюда надоевших им бездомных животных, живущих у них во дворах, которые затем будут уничтожены.

Гуманно ли это? Администрация считает, что да. Реальная забота о нас и нашем здоровье. Но давайте посмотрим на эту проблему с другой стороны. Кто виновен в том, что ежегодно на улицах, во дворах мы видим брошенных животных? Кто виновен в том, что обласкивая своих любимых домашних питомцев, их потомство мы выбрасываем, подкидываем в соседние дворы в надежде, что их кто-то подберёт? На самом же деле мы обрекаем их на голодную смерть.

Выбрасывая каждый раз таких животных, мы сами создаём условия для распространения всяческих заболеваний передаваемых от этих «бродяг».

Каждый раз, идя по улицам города, можно встретить этих обездоленных существ, просящих лишь чуточку сочувствия. В их глазах вы не увидите укора, а всего лишь мольбу о помощи. Помогите им...

## КРИМИНАЛЬНАЯ ХРОНИКА

Со склада в деревне Большие Яковичи в октябре месяце похищено 380 кг зерна ячменя. Личности злоумышленников установлены.

***

29 октября в Пружанский РОВД обратился житель д.Загорье, который сообщил, что в период времени с 25 по 29 октября у него из гаража похищен мотоцикл «ММВЗ», неисправный. Гараж вскрыли путём подбора ключа. По данному факту ведётся проверка.

***

За 10 месяцев текущего года на территории Пружанского района выявлено 275 фактов самогоноварения. А также 5 фактов продажи самогона, по которым возбуждены уголовные дела. За прошедшую неделю в лесных массивах возле г. п.Шерешево, д.Лысково, д.Могилёвцы, г.п.Ружаны обнаружено 6 подпольных самогонных мини-заводов, так называемые в народе, «бровара», на которых находилось около 5 тонн браги. Заводы-«бровара» уничтожены.

**Не прекращаются факты вандализма**

С 21 по 24 октября неизвестными лицами на улице Заслонова и улице Я. Купалы были выведены из строя светильники уличного освещения.

***

На городском кладбище, с двух могил были похищены ограды из нержавеющей стали.

***

*По данным фактам ведётся проверка.*

## ГАИ СООБЩАЕТ

28 октября около 20 часов, на 8-м км. автодороги Пружаны – граница Польши, гражданин Г., проживающий в д.Н.Засимовичи, управляя автомобилем Ваз-21035, принадлежащим по доверенности гражданину К., не справился с управлением и произвел занос автомобиля и опрокидывание. В результате ДТП, ехавшие в качестве пассажиров, гражданин К. и гражданин Д. доставлены в Пружанское РТМО. Гражданин К. с диагнозом: черепно- мозговая травма (ЧМТ), сотрясение головного мозга, ушиб затылочной области, перелом шейного отдела позвоночника, алкогольное опьянение. Гражданин Д. с диагнозом: ЧМТ, ушиб головного мозга, рана лобной области, алкогольное опьянение. Водитель Г. водительского удостоверения не имеет. По данному факту ведётся следствие.



## ВОТ ЗДЕСЬ МЫ ВПЕРЕДИ

Цены на нефтепродукты в Беларуси, после очередного повышения, превзошли аналогичные показатели в соседних странах СНГ, с которыми республика имеет тесные экономические отношения.

Напомним, что последнее 10-процентное подорожание - уже четвертое в сентябре.

Таким образом, сейчас разбежка в ценах на нефтепродукты в Беларуси и соседствующих с ней государствах выглядит таким образом (в долларовом эквиваленте).

| 1 литр | А-76 | А-92 | А-95 | ДТ |
|---|---|---|---|---|
| Россия | 0,20 | 0,24 | 0,28 | 0,21 |
| Украина | 0,29 | 0,31 | 0,34 | 0,27 |
| Молдова | 0,41 | 0,43 | 0,44 | 0,32 |
| Беларусь | 0,39 | 0,49 | 0,56 | 0,36 |

*БелаПАН*

СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# СЫН ДВУХ НАРОДАЎ

**М.С.Волчык,
настаўнік гісторыі**

Сярод невялікіх вёсак Пружаншчыны ёсць сёння нічым не адметная в. Доўгае ў 9 км. ад райцэнтра ва ўсходнім напрамку. Але ў 19 і пачатку 20 ст. гэтая вёска была вядома знакамітым родам шляхецкім Крашэўскіх. Менавіта ў пачатку 20 ст. уладальнікам маёнтка ў в. Доўгае быў Багуслаў Крашэўскі, аматар друкаванага слова, любіў, цаніў літаратуру і меў тут па тых часах выдатны кнігазбор з аўтографамі Ю. Нямцовіча, А. Міцкевіча, З. Красінскага і іншых. Лёс кнігазбору трагічны: у 1915 годзе падчас адступлення расійскага войска яна была знішчана казакамі, а частка забрана жыхарамі вёскі і выкарыстоўвалася ў якасці дроў для печаў. Так, лёс у гісторыі многіх каштоўнасцей не зайздосны і памяць сёння старэйшых жыхароў вёскі – толькі шкадаванне...

У той жа год (1915) быў знішчаны агнём і драўляны кляштар непадалёку ад маёнтка ў 30 р. Драўлянай забудовы 19 стагодзя та гасцінцы Пружаны – в.Сялец (у Бярозаўскім раёне цяпер) і, напэўна, Крашэўскія ахвяравалі сродкі на яго пабудову. Невялікі узгорачак – так сёння выглядае тое месца.

11 сакавіка 1827 года тут, у маёнтку нарадзіўся Каятан Крашэўскі – польскі пісьменнік, астраном, аўтар гістарычных аповесцей, абразкоў, мемуараў. Для прыкладу адзначым "Брэсцкі канэшыч" (1875), "З паданняў і нататак"(1892) і іншыя. Апісаныя падзеі адбываюцца ў Беларусі. Меў бібліятэку ў 10 тыс. тамоў у т.л. зборы Сапегаў. Памёр у 1896 годзе.

У дзяцінстве тут жыў Юзэф Ігнацы Крашэўскі (1812-1887) пісьменнік, гісторык, грамадскі дзеяч. Жыў у маёнтку з 1834 года, адбыўшы пакаранне за ўдзел у антырасійскім паўстанні 1830-31 гг. У сваіх артыкулах, падарожных нататках апісаў многія мясціны Беларусі, жыццё, побыт насельніцтва. Вядомыя добра творы " Пінск і піншчына" (1838), "Успаміны Валыні,



Палесся і Літвы" (1840) і іншыя.

У 70-ыя гг. 20 стагоддзя выпадкова на месцы рэштак маёнтка быў знойдзены медальён. Быў адчэканены ў гонар 50 годдзя літаратурнай дзейнасці. На вонкавым баку. Пацямнелым ад часу. Рэльефны партрэт пажылога чалавека з высокім ілбом і густой барадой, што ахопвае строгі твар з арлінымі носам. Па перыметры надпіс: "Юзэф Ігнацы Крашэўскі". На адваротным баку медальёна дата – 1879 і словы: "памятка ў гонар 50 гадовага юбілею З кастрычніка ў Кракаве". Маецца на увазе 50-годдзе літаратурнай дзейнасці пісьменніка. Дарэчы, па тых часах ён атрымаў выдатную адукацыю ў Свіцлацкай гімназіі і Віленскім універсітэце.

Перадавая грамадскасць Польшчы знайшла магчымасць адзначыць 50-гадовы юбілей пісьменніка, але гэты бал для Крашэўскага скончыўся бядою. Пажылы ўжо пісіменнік быў жорска пакараны. У час паўстання 1863-1864 гг. Крашэўскі быў рэдактарам "Польскай газэты", а потым расійскія ўлады яго выслалі за мяжу ў Германію. На ўрачыстасці ён прыехаў менавіта аддуль, а калі вярнуўся ў Дрэздан, у Берліне яго арыштавалі і адправілі ў турму. Яго абвінавацілі ў дзяржаўнай здрадзе, што ускалыхнула польскую грамадскасць. Але нішто не дапамагло. 75 – гадовага пісьменніка асудзілі на 3,5 гады.

19 сакавіка 1887 года Ю. Крашэўскага не стала. Яго спадчына – шмат тамоў позы, паэзіі, драматургіі, літаратурна-крытычных і публіцыстычных артыкулаў, працы па гісторыі, філасофіі і г.д.

Ў гісторыю літаратуры ён увайшоў як буйны раманіст. Класікі польскай літаратуры бачылі ў Крашэўскім свайго настаўніка. Сёння ў Польскай рэспубліцы яго імя астаўлена нашчадкам. Было б добра, акрамя тых культурных стасункаў нашага раёна з нашымі польскімі суседзямі з песнямі, танцамі, адзначыць гэтае сяброўства памятным знакам у в. Доўгае. Усё ж мы мелі ў свой час агульную гісторыю. Гісторыя і ёсць наша агульная чалавечая памяць.

# ТОПЛИВНЫЙ КРИЗИС ПРИШЕЛ В БЕЛАРУСЬ

**Владимир КУЛАЖЕНКО,**
***доктор экономических наук, профессор***

***В конце сентября - начале октября население Беларуси как бы издали наблюдало за ожесточенной борьбой владельцев автомобилей и транспортников против взрывного роста цен на топливо в Европе.***



Фото IREX/ProMedia

Бурные протесты в Лондоне, Париже, городах Германии вынудили власти принимать конкретные шаги, пресекающие неудержимый рост цен на бензин, регулировать ценообразование на горючее. Создавалось впечатление, что топливный кризис обойдет Беларусь.

Однако этого не произошло по многим причинам. Во-первых, "напряженка" с топливом и энергией у нас была и прежде. Именно по причине более чем двукратного роста цен на энергоносители, которые мы получаем на монопольной основе только из России, за 8 месяцев нынешнего года дефицит торгового баланса Беларуси с этой страной превысил 1 миллиард долларов, что достигло угрожающего уровня - 6 процентов годового ВВП. Во-вторых, топливный кризис в Европе и других частях мира оказался выгодным России, и она вслед за странами ОПЕК начала повышать цены на нефть и нефтепродукты и на внешнем рынке, включая Беларусь, и на внутреннем.

В этих условиях топливный кризис в Беларуси как специфический сегмент энергетического приобрел обвальный характер. Только в сентябре цены на бензин и дизтопливо повышались трижды и выросли в среднем на 62-68 процентов. А за последние 5 лет цены на дизтопливо выросли в 154 раза, на бензин - в 121-140 раз. Так что нынешнее повышение цен можно считать лишь эпизодом давно определившейся тенденции. Но эпизодом весьма чувствительным. Стоимость одного литра 92-го бензина достигла 505 рублей, 95-го - 579 рублей, или более 50 центов США. Естественно, что такое повышение цен на топливо будет ускорять инфляцию, которую власти на словах хотели бы укротить.

Повышение цен на топливо для отдельных отраслей народного хозяйства оборачивается усилением диспаритета цен, что имеет негативные последствия для хозяйственной деятельности сегодня и в будущем. Представьте, в какой ситуации оказываются колхозы и совхозы, если стоимость литра дизтоплива повышена до 375 рублей, что примерно равно закупочной цене килограмма мяса. Могут ли хозяйства при таком соотношении цен нормально работать? Конечно, нет. Колхозы и совхозы вроде бы получили доход за проданное зерно. Но деньги ушли на погашение задолженности по заработной плате и другие хозяйственные нужды. А вот на вспашку зяби, на проведение осеннего сева денег снова нет. Вертикаль на местах опять мобилизует ресурсы промышленных предприятий на оказание помощи сельскому хозяйству. Дело дошло до того, что к работам стали подключать частных собственников тракторов. Например, в Червенском районе 250 таких машин, и местные власти обратились к их владельцам с призывом добровольно отработать по 5 дней в хозяйствах района.

Между тем руководитель государственного концерна "Белнефтехим" Иван Бамбиза заявляет, что цены на топливо у нас еще не высокие, они в полтора раза ниже, чем в Западной Европе, и, дескать, на их уровень нельзя жаловаться. Действительно это так, цены на топливо у нас ниже, может, процентов на 30-50. Но странно: высокому чиновнику будто неизвестно, что зарплата у нас в десятки раз ниже, чем в странах Западной Европы.

В действительности ситуация с топливом, главным образом из-за его цены, критическая. И продолжает обостряться, ибо цена закупаемой в России нефти для переработки за 2-3 месяца повысилась со 110 до 160-170 долларов за тонну. За оставшиеся месяцы года в связи с этим на закупки нефти как сырья нужно дополнительно выделить еще

30 миллионов долларов. Естественно, что эти большие деньги сразу перекочуют в затраты, подталкивая рост цен, т.е. инфляцию. При этом нельзя не считаться с тем, что Беларусь имеет задолженность за российский газ в объеме 300 млн. долларов плюс к этому за электроэнергию и другие энергоносители.

К тому же начался интенсивный рост цен на топливо и в самой России. Уже в начале октября цена на бензин АИ-92 и АИ-95 возросла на 10-15 процентов, до уровня 30-40 центов США за литр. В этих условиях Россия вряд ли пойдет на снижение экспортных цен на сырую нефть в Беларусь.

Масла в огонь топливного кризиса подливает и само белорусское правительство. С экономической точки зрения нельзя понять, почему, формируя бюджет на будущий год, оно пошло на удвоение налога на топливо. Это же прямое повышение издержек производства, а потому и цен.

Что же дальше? Далее маячит реальная угроза экономике Беларуси по многим направлениям. Прежде всего, это угроза срыва реализации прогнозов социально-экономического развития. А во-вторых, прогнозные показатели инфляции в 3 процента в месяц могут оказаться нереальными.

Вызывает удивление, что в правительственных структурах ожидают в ближайшей перспективе стабилизации цен на нефтепродукты, а затем и снижения их. Причем считается, что предпосылки для этого создадут не россияне, а США. Тот же руководитель государственного концерна "Белнефтехим" заявил, что "президент США уже принял решение о размораживании части своих резервов (имеются в виду резервы нефтепродуктов. В.К.). Если он выбрасывает свои нефтепродукты на рынок, страны ОПЕК должны среагировать и снизить цену". Естественно, что так может произойти, но многое будет зависеть от того, сколько и когда будет выброшено нефтепродуктов на мировой рынок. Нельзя забывать и о том, что западные страны обеспечивают страны ОПЕК своими финансами и могут ввести жесткие экономические санкции.

Что касается России, то она не заинтересована в снижении мировых цен на нефть и нефтепродукты. Ведь в прошлом году именно на основе экспорта энергоресурсов Россия получила огромное положительное сальдо внешней торговли - 20 млрд. долларов. Благодаря этому в России преодолевается финансовый кризис. Поэтому вряд ли Москва будет способствовать снижению цен на нефть, а следовательно - ослаблению топливного кризиса в Беларуси.

Есть еще одна фундаментальная причина обострения затяжного топливного кризиса в Беларуси - монополизм. Ведь у нас только один поставщик сырой нефти, и уровень цен определяется только им.

## КРЫША ПОЕХАЛА!



Мужчина звонит в психбольницу:

- Ваши пациенты все на месте?

- Да,а что случилось?

- Да моя жена убежала из дома с каким-то придурком!

***

Четырехлетний Вовочка рассказывает маме:

- Мама, сегодня в садике нас проверял врач.

- А что он проверял?

- Проверял, дышим мы или нет.

***

- Почему женщины так много времени и средств уделяют внешнему виду, а не развитию интеллекта?

- Потому что слепых мужчин гораздо меньше, чем глупых.

***

- Ну просто сердце кровью обливается, как вижу этих заспиртованных животных!

- Да что ты, там же всего три лягушки...

- Вот именно - три лягушки. А спирта - литров десять!

***

Запись в дневнике:

С утра трясутся руки с похмелья.

Стал расстегивать пижаму - отлетели пуговицы.

Взялся за портфель - отпала ручка.

Боюсь идти в туалет...

***

В зал ресторана заходит швейцар и говорит:

- Господа, кто потерял кошелек перевязанный синей ленточкой?

Все начинают лихорадочно хлопать себя по карманам и тут один мужик кричит:

- Я! Я потерял!

Швейцар:

- Я ленточку нашел. Возьмите.

***

Отец говорит сыну-адвокату:

- Если мама спросит тебя, сколько я выпил, то ты скажи...

Сын:

- Врать я не буду, но на основании существующих между нами родственных связей я могу отказаться от дачи показаний.

***

Встречаются два друга:

- Я встретил девушку, которая обещает окружить меня любовью заботой и лаской. Что ты об этом думаешь?

- Я думаю как ты будешь выходить из окружения...

***

Муж и жена едут в соседний городок в гости. Жена: Ой, скорее поворачивай машину назад! Я забыла выключить газ, как бы не сгорела наша квартира!

- Ничего страшного, не сгорит, я забыл выключить душ.

***

Несется по городу байкер на мотоцикле. Укуренный вусмерть. Думает: "Щас, блин, гаишники остановят, спросят: "А чего это у тебя глаза красные? Обкурился?", а я им скажу: "Нет, ветром надуло". Останавливает его гаишник и спрашивает:

- Почему у вас глаза красные? Ветром, что ли, надуло?

- Нет, обкурился...




## ФУТБОЛ




**Елена Адамчук**

На городском стадионе г.Пружаны с 3 по 26 октября проводилось Первенство района по футболу среди учащейся молодёжи (1983 г.р. и младше). Участие принимали 9 команд: сборные пяти школ города, с/х техникума, вечерней школы, Порослянской школы и команда «Аквилон-юни». Призовые места распределились следующим образом. Первое место завоевала команда СШ №5. На втором месте - прошлогодний чемпион – Пружанский с/х техникум, на третьем – СШ №3. В награду футболисты получили мяч, вазы от Отдела по делам молодёжи и грамоты Отдела спорта и туризма райисполкома.

Можно сказать, футбольный турнир удался. Состоялись практически все игры. Тройка лидирующих команд определилась уже в начале турнира, заметно выделялись уровнем игры сборные СШ №5, СШ №3, с/х техникума. Интересная игра состоялась 19 октября между футбольными дружинами пятой школы и третьей школы. Команда СШ №5 играла в меньшинстве, однако, сумела победить со счётом – 3:2. Эта игра и решила практически судьбу первого места.

В роли аутсайдеров оказались команды СШ №4 и гимназия, заняв соответственно восьмое и девятое места.

## ГЭТА ЦІКАВА

# СОВРЕМЕННЫЕ ДЕТИ СМОГУТ ДОЖИТЬ ДО 130 ЛЕТ

У детей, рожденных в этом году, есть шанс прожить до 130 лет, сообщает британская газета The Times. К такому выводу пришли американские демографы.

В качестве доказательства исследователи взяли данные о долгожителях Швеции. Ученые изучили статистику продолжительности жизни шведов за последние 140 лет. Оказалось, что в середине прошлого века старейшие скандинавы доживали в среднем только до 100 лет. К 60-м годам этого века долгожители прибавили к максимальному сроку жизни еще пять лет. Сейчас же шведским старикам отмерено уже 108 лет — каждый год жизнь старых людей становится дольше на 13 месяцев. Ученые подсчитали, что, сохраняя такие темпы, уже через 120 лет средний возраст долгожителей составит 121 год. А часть из них отметит и 130-летие. И это будут дети, родившиеся в начале XXI века.

На настоящий момент самый старый человек, живший на планете, чью дату рождения удалось официально доказать — французская бабушка Джоан Кальмент—умерла в возрасте 122 лет и пяти месяцев. На данный момент демографам известно приблизительно о двух десятках людей, отпраздновавших 110-летие. И с каждым годом их число растет.

Результаты исследований напрочь опровергают ортодоксальную точку зрения науки, что человеческое тело не может жить дольше 120 лет плюс-минус 5 лет только потому, что изнашиваются органы. По словам Джона Вильмофа, профессора демографии Калифорнийского университета, который и возглавлял команду исследователей, человечество будет жить все дольше и дольше с каждым веком. До каких пределов дойдет максимальный возраст — трудно сказать. Удлинение жизни ученые объясняют в первую очередь развитием медицинских технологий, а также пропагандой здорового образа жизни. Однако в отдельно взятой стране длина жизни людей через 100 лет зависит от данных на настоящий момент. В тех странах, где средняя продолжительность жизни низкая, суперстарики появятся гораздо позже.

# ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАЯ ГУЛЬНЯ "БРЭЙН-ЛАТО"

*Вашай увазе прапануецца конкус пад назвай "Брэйн-Лато", які будзе рэгулярна праваздіцца на старонках нашай газеты.*

*Умовы простыя: вы чытаеце і выразаеце з газеты картку гульні, адзначыўшы пры гэтым, на ваш погляд, правільны варыянт адказу на кожнае пытанне, высылаеце яе па адрасу: Рэдакцыя газеты "Голас Пружаны" 225140, г.Пружаны, вул.Завадская,16.(з паметкай "Брэйн-Лато"). Выпраўлені недапушчальныя.*

*За кожны правільны адказ залічваецца адно ачко. Вынікі 1-га тура будуць падведзены да Новага года. Пераможцу чакае прыз ад Дзеда Мароза. Для падпісчыкаў у дадатак да прыза яшчэ і скрыня лепшага пружанскага піва "Герольд Прэміум".*

*Адказы прымаюцца на працягу 3-х дзён з моманту выхаду газеты, па паштоваму штэмпелю на канверце.*

## ТЭМА ПЕРШАЙ ГУЛЬНІ

## "МОЙ ГОРАД Ў МІНУЛЫМ СТАГОДДЗІ"

**1.** Пружанскае дваранскае вучылішча закончылі знакамітыя землякі: А) Баброўскі П.В., Б) Крашэўскі К.І., В) Жукоўскі С.Ю., Г) Швыкоўскі В.П., Д) Шырма Р.Р.

**2.** Першы каменны будынак узведзены Расійскімі уладамі ў Пружанах у 1820 годзе знаходзіўся на скрыжаванні вуліц:
А) Шырмы і Леніна, Б) Шырмы і Свабоды, В) Савецкай і Чырвонаармейскай, Г).Чырвонаармейскай і Свабоды , Д) Савецкай і Піянерскай.

**3.** Першы вядомы піваварны завод Лея Памеранца ў Пружанах вырабіў ў1890 годзе літраў піва:
А) 288000, Б) 79600, В) 544000, Г) 177400, Д) 1034000

Прозвішча і імя іграка:

Адрас:

| | А | Б | В | Г | Д |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | |
| 2 | | | | | |
| 3 | | | | | |




***Дорогих, мужа Юрия, сына Михаила и дочь Светлану от души поздравляет любящая жена и мама Галина Рак***

Желаю здоровья, успехов,
А если слезинку,
То только от смеха.
Пусть жизнь ваша будет прекрасной,
В доме погода только ясной.






**Голас Пружаны**

**Рэг. № 1323 ад 16.07.1999 г.**
**Заснавальнік і рэдактар Язэп Машкала**

**Адрас рэдакцыі:** 225140, г. Пружаны, вул.Завадская, 16
**Телефон:** (01632) 2-00-40
**E-mail:** golasp@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.

Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 9 лістапада 2000 года.

Час падпісання 18:00

Надрукавана ў ГАУПП "Слонімская друкарня", г.Слонім, вул. Хлюпіна, 16.

Наклад 1000 экз. Заказ № 3483